Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 040
Адрас для карэспандэнцыі: 220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 23 кастрычніка 1998 г. № 114 (506) Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Вяртанне палітрукоў

### *Беларускі прэзідэнт прыдумаў новую пасаду*

Згодна з ягоным распараджэннем, на кожным дзяржаўным прадпрыемстве з колькасцю працоўных больш за 300 чалавек, а таксама ў калгасах і саўгасах, дзе больш за 150 работнікаў, уводзіцца новая пасада намесніка дырэктара (старшыні) па інфармацыйна-выхаваўчай рабоце.

Намеснікі павінны будуць тлумачыць сваім падначаленым палітыку дзяржавы і прэзідэнта, а таксама шкоду ад дзейнасці апазіцыйных партыяў і рухаў.

Як вядома, раней на дзяржаўных прадпрыемствах штомесяц праводзіўся «адзіны палітдзень», калі ўсе чыноўнікі — ад членаў урада да старшыняў райвыканкамаў — выязджалі на замацаваныя за імі прадпрыемствы і чыталі лекцыі пра сучаснае палітычнае становішча. Гэтая практыка будзе працягнутая. Але цяпер «палітычная асвета» будзе весціся не раз на месяц, а кожны працоўны дзень — з дзевяці да шасці.

Нагадаем, што ў свой час Аляксандр Лукашэнка служыў палітруком на пагранзаставе.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Прэзідэнт вяртаецца з Сібіры

**Скончыўся трохдзённы візіт беларускага прэзідэнта ў Сібір. Сёння Аляксандр Лукашэнка вяртаецца з Кемерава ў Мінск.**

Падчас візіту А.Лукашэнка сустракаўся з губернатарамі Омскай і Кемераўскай абласцей Леанідам Паляжаевым і Аманам Тулеевым, з мясцовымі прамыслоўцамі і прадпрымальнікамі, а таксама з прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Сібіры.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Штаб Івана Ціцянкова

**Славуты горад Шклоў наведаў віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Г.Навіцкі.**

Ён удзельнічаў тут у паседжанні рэспубліканскага штаба па правядзенні свята «Дажынкі-99». Як мы ўжо паведамлялі, менавіта ў Шклове ў будучым годзе будуць шанаваць пераможцаў «ураджаю-99». Штаб узначальвае Іван Ціцянкоў.

**Б.П.**

## Долар – 180 тысяч рублёў

**Падзенне беларускага рубля на «чорным рынку» краіны працягваецца.**

Учора за адзін долар там давалі 170-180 тысяч рублёў. Кіёскі-«абменнікі» прапаноўваюць значна менш — 79 тысяч рублёў. Курс Нацбанка — 55.900.

**М.К.**

# У Філарэта – юбілей

### *У гэтую суботу ў мінскім Кафедральным саборы вернікі будуць віншаваць уладыку*

**З**АЎТРА спаўняецца 20 гадоў архіпастырскаму служэнню на Беларусі мітрапаліта Філарэта. Пасля ўрачыстага набажэнства ў мінскім Кафедральным саборы ўладыка будзе прымаць віншаванні. Аляксандр Лукашэнка плануе нанесці яму візіт у нядзелю. У сувязі з юбілеем прэзідэнт ужо ўзнагародзіў Філарэта, уручыўшы яму крыху раней ордэн Айчыны III ступені.



Менавіта 24 кастрычніка 1978 года Беларускую епархію ўзначаліў карэнны масквіч мітрапаліт Філарэт. Энергічны царкоўны дзеяч быў накіраваны ў Беларусь, якую палітбюро КПСС хацела зрабіць першай «бязбожнай» рэспублікай Савецкага Саюза. За гады архіпастырскага служэння свецкая ўлада ў Беларусі часта мянялася, а Філарэту ўдалося захаваць свае паўнамоцтвы і нават заваяваць у 1990 г. дэпутацкі мандат на выбарах у Вярхоўны Савет. Знайшоў ён паразуменне і з «праваслаўным атэістам».

У часы «жалезнай заслоны» Філарэт часта выязджаў за мяжу. У 1981 годзе ён узначаліў аддзел знешніх царкоўных зносінаў Маскоўскага патрыярхату і актыўна дзейнічаў у Савецкім камітэце абароны міру. Шмат сілаў уладыка аддаў барацьбе за раззбраенне, прапагандуючы савецкія мірныя ініцыятывы.

За першыя гады свайго служэння на Беларусі мітрапаліту Філарэту ўдалося зберагчы ад закрыцця Жыровіцкі манастыр, узвесці трохпавярховы будынак епархіяльнай управы, знайсці новых святароў, хаця і без семінарскай адукацыі. З 1989 года пачаў дзейнічаць сінод Беларускай праваслаўнай царквы, якая, па словах Філарэта, атрымала «свабоду і незалежнасць ад амафорам Маскоўскага патрыярхату». Намаганнямі ўладыкі адрадзіліся 10 гістарычных епархіяў на Беларусі, зноў адчынілася Мінская духоўная семінарыя ў Жыровічах. Цяпер створана 1.050 праваслаўных прыходаў, што, на думку Філарэта, «толькі палова ад патрэбнай колькасці». Нарэшце, нядаўна аднолены крыж Прападобнай Еўфрасінні Полацкай. На жаль, за гады архіпастырскага служэння яшчэ не завершаны пераклад Свяшчэннага пісання на беларускую мову і не ажыццявілася мара Філарэта пра адкрыццё ў Мінску духоўнай акадэміі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Наступ на Крэмль пачнецца з тылу

**Як мы ўжо паведамлялі, праект аб'яднання Беларусі і Расіі ў федэратыўную дзяржаву будзе разглядацца ў Яраслаўлі.**

2—3 лістапада там адбудзецца сесія Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. Праект канцэпцыі аб'яднання РБ і РФ быў распрацаваны сумеснай рабочай групай, у якую ўвайшлі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі і Дзяржаўнай думы Расіі. Узначальвае групу дэпутат Дзярждумы Алена Мізуліна.

Як паведаміў адзін з беларускіх «распрацоўшчыкаў» дэпутат Валерый Драко, плануемае аб'яднанне павінна прайсці ў некалькі этапаў. У першай палове 1999 года ў Беларусі і Расіі пройдуць рэферэндумы па пытанні аб'яднання дзвюх дзяржаў, а потым прынята канстытуцыя Саюза і сфарміраваны саюзны парламент.

Ужо сфармуляваны пытанні, на якія ў хуткім часе, магчыма, трэба будзе адказаць беларускім і расійскім грамадзянам. Плануецца, што іх будзе два: «Вы за ўтварэнне саюзніцкай дзяржавы Беларусі і Расіі?» і «Ці адабраеце вы праект канстытуцыі саюзніцкай дзяржавы Беларусі і Расіі?».

Па словах В.Драко, рэферэндумы плануецца правесці адначасова з правядзеннем выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў у Беларусі і дэпутатаў Дзяржаўнай думы ў Расіі, якія павінны адбыцца ў 1999 годзе. Згодна з праектам, да канца 1999 года павінен быць сфарміраваны парламент Саюза. Чакаецца, што ён будзе двухпалатным. У Верхнюю палату — Савет Саюза — увойдуць 50 парламентарыяў, якія ў роўнай колькасці будуць дэлегіравацца нацыянальнымі парламентамі Беларусі і Расіі; у Ніжнюю палату — Савет народных прадстаўнікоў — увойдуць 100 дэпутатаў (25 — ад Беларусі, 75 — ад Расіі), яна будзе фарміравацца шляхам правядзення прамых выбараў па аднамандатных акругах. Саюзны парламент павінен быць сфарміраваны да канца 1999 года.

Як адзначыў В.Драко, па сутнасці, пытанне аб аб'яднанні залежыць ад рашэння двух чалавек — Аляксандра Лукашэнкі і Барыса Ельцына, таму што праект канцэпцыі ўжо атрымаў адабрэнне беларускіх і расійскіх парламентарыяў. Пасля абмеркавання на яраслаўскай сесіі дакументы будуць накіраваны на разгляд прэзідэнтаў Беларусі і Расіі. Магчыма, лёс праекта канцэпцыі будзе вырашаны на паседжанні Вышэйшага савета Саюза Беларусі і Расіі, якое плануецца правесці да канца гэтага года.

*БелаПАН*

*Даўгі*

## Палова мільярда ёсць

**Агульны доўг Беларусі за імпартуемыя энерганосьбіты на 1 кастрычніка склаў 492,6 мільёна долараў ЗША.**

У прыватнасці, запазычанасць расійскаму «Газпрому» па стане на 1 кастрычніка склала 234,2 млн. долараў ЗША (на 1 студзеня гэтая лічба складала 94,4 млн.). Доўг за электраэнергію дасягнуў 89,7 млн. долараў (на 1 студзеня — 20,6 млн.), у тым ліку Расіі — 39,7 млн., Літве — 50 млн. долараў. Запазычанасць пастаўшчыкам з Расіі за нафту і нафтапрадукты на 1 кастрычніка склала 168,7 млн. долараў ЗША (на 1 студзеня — 95,9 млн.).

*БелаПАН*

# План Беразоўскага правалілі

**У сераду Мінск наведаў выканаўчы сакратар СНД Барыс Беразоўскі. Ён прывёз сваю канцэпцыю рэфармавання СНД.**

*«Альтэрнатывы радыкальнаму рэфармаванню СНД не існуе»*, — мяркуе Барыс Беразоўскі. Ён прапанаваў стварыць у рамках Садружнасці новую структуру — каардынацыйна-кансультатыўны камітэт (ККК).

Згодна з планам Беразоўскага, новая структура атрымлівала надзвычайныя паўнамоцтвы ў кіраванні СНД, а выканаўчы сакратар СНД станавіўся найвышэйшай службовай асобай у Садружнасці. Гэта вельмі не спадабалася рабочай групе па рэфармаванні СНД, якая складаецца з прадстаўнікоў усіх краінаў-членаў Садружнасці. Дагэтуль у СНД фактычна не было адзінага кіраўніка, усе краіны лічыліся роўнымі і вырашалі ўсе пытанні разам. Таму прапанова Беразоўскага была ў гэты ж дзень аднагалосна праваленая.

Варта зазначыць, што далёка не ўсім у СНД падабаецца асоба выканаўчага сакратара, а таксама ягоныя падыходы да вырашэння праблем Садружнасці. Гэта датычыць як прадстаўнікоў краінаў, так і супрацоўнікаў апарату СНД. Напрыклад, паўнамоцны прадстаўнік Беларусі ў СНД Сяргей Посахаў быў вельмі незадаволены прапановай Беразоўскага стварыць «аўтаномную» штаб-кватэру СНД у Маскве. Па словах С.Посахава, на ўтрыманне маскоўскай штабкватэры СНД усім краінам спатрэбіцца ўдвая павялічыць свой грашовы ўзнос у бюджэт СНД.



Па словах Сяргея Посахава, непрымальнай палічылі ў СНД і ідэю Беразоўскага аб прапарцыйнасці прадстаўніцтва кожнай краіны ў СНД у адпаведнасці з фінансавым узносам. Што гэта значыць? Напрыклад, калі Расія плаціць у бюджэт СНД у дзесяць разоў больш, чым Беларусь, то пры прыняцці нейкіх сумесных рашэнняў на кожны беларускі голас прыходзілася б, згодна з планам Беразоўскага, дзесяць расійскіх. На сённяшні дзень прадстаўніцтва ў СНД ажыццяўляецца паводле прынцыпу «адна краіна — адзін голас».

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Фронт рыхтуецца да Дзядоў

**Актывісты БНФ збіраюцца правесці 30 кастрычніка масавы пікет у раёне мінскіх Усходніх могілак, дзе 10 гадоў таму адбылася першая ў савецкай Беларусі апазіцыйная акцыя.**

Нагадаем, што на восеньскія Дзяды 30 кастрычніка 1988 г. тысячы мінчан прыйшлі да Усходніх могілак, дзе члены толькі створанага аргкамітэта БНФ збіраліся ўшанаваць памяць ахвяраў камуністычных рэпрэсіяў. Тагачасныя ўлады БССР сілай разагналі першую апазіцыйную маніфестацыю, выкарыстаўшы міліцэйскія дубінкі і слезацечны газ.

Праз некалькі гадоў дзень памінання продкаў Дзяды стаў адзначацца на афіцыйным узроўні. Летась Лукашэнка сваім указам пазбавіў Дзяды афіцыйнага статусу. Тым не менш людзі ўсё роўна адзначаюць гэты дзень памяці. Як нам паведамілі ў штабкватэры БНФ, сёлета 1 лістапада фронтаўскія актывісты збіраюцца арганізаваць традыцыйнае жалобнае шэсце ад плошчы Незалежнасці да памятнага крыжа ў Курапатах.

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

## Хочаш плаваць – заплаці

**«Прыемная» навіна для ўладальнікаў надзіманых лодак — за іх трэба будзе яшчэ раз заплаціць.**

Савет міністраў зацвердзіў пастанову «О мерах по улучшению охраны жизни людей на водах Республики Беларусь». Як паведамілі карэспандэнту газеты ў Магілёўскай абласной інспекцыі па маламерных суднах, згодна з новай інструкцыяй, уладальнікі «гумавага флоту» мусяць тэрмінова зарэгістраваць свае лодкі і платы. У адваротным выпадку, ёсць вялікая рызыка згубіць досыць адчувальную суму. Рачны інспектар будзе мець права аштрафаваць парушальніка на 3 мінімальныя зарплаты толькі за тое, што лодка не зарэгістраваная. А калі вы яшчэ і з вудаю ў лодцы сядзіце, то заплаціце штраф за незаконную лоўлю рыбы .

Уладальнік лодкі павінен заплаціць за яе рэгістрацыю каля 300 тысяч рублёў, каб потым атрымаць бартавы нумар і судновы білет. У інспекцыі лічаць, што выкананне новых правілаў дазволіць больш надзейна ахоўваць чалавечае жыццё. Але якім чынам? На гэтае пытанне ў інспекцыі адказалі так: «Калі хтосьці патоне, то па нумары і білеце мы дакладна скажам, хто гэта мог быць...»

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

## Падазраецца ў пяці забойствах

**Небяспечны злачынца трапіў на мінулым тыдні ў рукі праваахоўных органаў Брэста.**

Міліцыя затрымала 22-гадовага жыхара Брэста, які забіў жанчыну дзеля таго, каб пажывіцца 900 доларамі. Падчас вобыску на ягонай кватэры следчыя знайшлі пісталет, які ўжо даўно шукала міліцыя. Менавіта з гэтага ствала ў 1996—1997 гг. у Брэсце былі забітыя 4 чалавекі. Прычым, тады толькі ў адным выпадку забойства было ўчыненае з мэтаю рабаўніцтва — злачынца застрэліў аператара адной з аўтазаправак і скраў з касы 24 мільёны рублёў. Астатнія тры забойствы не мелі карыслівых матываў. Створаны амаль 2 гады таму партрэт-фотаробат верагоднага забойцы цалкам супадае са знешнім выглядам затрыманага.

Язэп СІНІЦКІ

## Магілёўскі крымінал

**Трывожныя лічбы крымінальнай статыстыкі абмяркоўваліся на паседжанні калегіі Магілёўскай абласной пракуратуры.**

Вынікі 9 месяцаў гэтага года сведчаць пра сур'ёзны рост наўмысных забойстваў. Сёлетнія лічбы на 10% перавышаюць сумныя мінулагодняга паказчыкі. З пачатку 1998 года на Магілёўшчыне было забіта 113 чалавек. 12 забойстваў застаюцца нераскрытымі. Насцярожвае таксама рост злачыннасці сярод моладзі. Амаль на 20% вырасла колькасць крымінальнага рэцыдыву сярод непаўналетніх. Сёння ў спецустановах знаходзіцца 13 маладых забойцаў.

Іван ЗАСАДА

# Важны госць з ААН наведаў чарнобыльскія гарады-прывіды

**У сераду скончыўся візіт намесніка генеральнага сакратара ААН Серджыа В'ейра дэ Мела ў Беларусь. Па выніках сваёй паездкі ён даў прэс-канферэнцыю.**

Серджыа дэ Мела адказвае ў ААН за аказанне надзвычайнай дапамогі. У сферу ягонай кампетэнцыі ўваходзіць і чарнобыльская праблема, таму свой візіт у Беларусь спадар дэ Мела пачаў менавіта з паездкі па рэгіёнах, забруджаных радыяцыяй. Ён наведаў адселеныя вёскі Хойніцкага і Брагінскага раёнаў Гомельскай вобласці, а таксама Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік. *«Наведаўшы саму Чарнобыльскую АЭС і тэрыторыі вакол яе, пабачыўшы гарады-прывіды і калісьці добра развітую эканамічную інфраструктуру, што не выкарыстоўваецца цяпер, я змог лепей асэнсаваць увесь маштаб бедства,* — сказаў Серджыа дэ Мела. — *Пасля візіту ў Чарнобыль я ўсвядоміў, што гэта — праблема не толькі мінулага, але таксама і будучыні. Гэта — праблема ўсіх нас».*

Тым не менш, Серджыа дэ Мела лічыць, што чалавецтву трэба *«прывучацца жыць з атамнай энергіяй»*. На думку ААНаўскага прадстаўніка, роля атамнай энергетыкі ў жыцці чалавецтва будзе толькі ўзрастаць, бо прыродныя рэсурсы нашай планеты абмежаваныя. Таму Чарнобыль павінен застацца ў памяці ўсіх жыхароў Зямлі — своеасаблівы ўрок небяспечнага карыстання атамнай энергіяй, які не можа быць паўтораны.

Па словах Серджыа дэ Мела, ААН імкнецца дапамагчы Беларусі, Украіне і Расіі — краінам, якія больш за ўсё пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы. Але галоўная праблема на гэтым шляху — катастрафічны недахоп грошай. Таму Беларусь мусіць выпрацаваць праграму з 3-4 канкрэтных мерапрыемстваў, пад якія можна будзе прасіць грошы не толькі ва ўрадаў замежных краінаў, але і ў недзяржаўных арганізацыяў.

Перш за ўсё гэта могуць быць праекты, што датычаць аховы здароўя: дыягностыка захворванняў, звязаных з радыяцыйным апраменьваннем, лячэнне і навуковыя даследаванні ў галіне радыяцыйнай медыцыны. Па-другое, гэта праекты ў галіне навакольнага асяроддзя (напрыклад, як можна карыстацца лясамі, што знаходзяцца на забруджаных тэрыторыях). Трэці накірунак — псіхалагічная і сацыяльная рэабілітацыя людзей, што пацярпелі ў выніку Чарнобыльскай катастрофы.

Намеснік генеральнага сакратара ААН нагадаў, што Чарнобыль — гэта далёка не адзіная катастрофа ў свеце, колькасць «гарачых кропак» і прыродных бедстваў расце штодня, і ААН, натуральна, не можа надаваць шмат увагі толькі чарнобыльскай праблеме.

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

# Лётчыкаў не знайшлі

**У Беларусь вярнуліся са Шры-Ланкі члены камісіі, якая займалася пошукамі самалёта Ан-24, што знік у небе над Цэйлонам 29 верасня. На жаль, нічога новага пра лёс чатырох лётчыкаў з Гомеля даведацца камісіі не ўдалося.**

*«Працягваем пошукі ўсімі магчымымі сродкамі»*, — паведаміў нам намеснік старшыні камітэта па авіяцыі Васіль Ермакоў. Па ягоных словах, пасланцы камітэта зрабілі ў Рэспубліцы Шры-Ланка ўсё магчымае, і не іх віна, што вынікаў няма. Пошукі самалёта вядуцца сіламі вайскоўцаў, паліцыі, збіраецца і аналізуецца ўся магчымая інфармацыя з мясцовага друку, ад верагодных сведкаў. Удалося нават падключыць да пошукаў расійскі спадарожнік. Ён з космасу прагледзеў акваторыю Манарскага заліва, над якім, хутчэй за ўсё, правёў апошнія хвіліны палёту рэйс 602 Джафна—Каломба.

Аналіз інфармацыі, што паступае ад спадарожніка, працягваецца. Пакуль слядоў самалёта на дне заліва не знойдзена. *«Пошукі ўскладняюцца тым, што акваторыя заліва ўсыпаная безліччу дробных каралавых астравоў. Дно вакол такіх астравоў не праглядаецца. Не выключана, што самалёт ляжыць у такім месцы»*, — гаворыць Васіль Ермакоў. Не выключае ён і магчымасць падзення ці пасадкі Ан-24 непасрэдна на тэрыторыі Цэйлона, у джунглях. Але ўзбярэжжа па маршруту рэйса 602 кантралююцца мясцовымі сепаратыстамі, і ўрадавыя войскі не рызыкуюць туды сунуцца. Між тым паліцыя не спыняе спробаў высветліць лёс пасажыраў самалёта і ягонай каманды па сваіх каналах. У гэтым ёсць не толькі службовая зацікаўленасць. Аказваецца, бортправадніца зніклага самалёта — дачка аднаго з высокіх паліцэйскіх чыноў Шры-Ланкі.

Родныя і знаёмыя беларускіх лётчыкаў таксама не губляюць надзеі, што ўбачаць жывымі і здаровымі камандзіра экіпажа Анатоля Матошку разам з ягонымі калегамі Сяргеем Акапрыенкам, Сяргеем Лысаіванавым і Сяргеем Казловым.

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

## Новыя манеты

**Нацыянальны банк Беларусі ўвёў у абарачэнне новыя памятныя манеты.**

Адна з іх (сярэбраная), вартасцю 10 рублёў — прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Дзве іншыя памятныя манеты вартасцю 20 рублёў і адзін рубель прысвечаныя Полацку ў гонар 500-годдзя атрымання горадам Магдэбургскага права.

Кожная манета мае тыраж 2.000 штук. Яны з'яўляюцца законным плацежным сродкам Рэспублікі Беларусь і абавязковыя да прыёму пры любых разліках.

*БелаПАН*

# Шчыры Шушкевіч



**БЕЛАРУСКІЯ** палітыкі, бываючы за мяжою, выказваюцца там больш шчыра, чым дома. Яскравай ілюстрацыяй можа служыць інтэрв'ю, якое даў у Варшаве Станіслаў Шушкевіч карэспандэнту польскай газеты «Трыбуна».

**Кар: — Што вы думаеце аб намеры беларускай апазіцыі выставіць адзінага кандыдата на бліжэйшых прэзідэнцкіх выбарах? Напрыклад, дзеячы, аб'яднаныя вакол Хартыі-97, лічаць, што гэтым кандыдатам мог бы быць Генадзь Карпенка. Ці ёсць у яго шанцы перамагчы Лукашэнку?**

**С.Ш.:** — Я павінен вам сказаць, што пра апазіцыю, аб'яднаную вакол Хартыі-97, і пра саму Хартыю больш ведаюць у Польшчы, Брусэлі і Нью-Ёрку, чым у Беларусі. Добра, што такое аб'яднанне існуе, але ў Беларусі Хартыя не мае вялікага ўплыву. Не можа быць нават і размовы аб выстаўленні агульнай кандыдатуры. Гэты чалавек сам хоча быць прызначаным лідэрам і хоча паказаць усім, што вакол яго нешта адбываецца.

На маю думку, ёсць толькі адзін цэнтр апазіцыі — легітымны Вярхоўны Савет, дакладней, тая яго частка, якая засталася. Выстаўляючы свайго кандыдата, аб'яднаная апазіцыя супрацьпастаўляе сабе Вярхоўны Савет. Акрамя таго, варта задумацца, ці разумна выстаўляць толькі аднаго кандыдата ад апазіцыі супраць Лукашэнкі. Прэзідэнт тады можа выставіць свайго псеўдакандыдата (патрыёта, камуніста), і выбары апазіцыя фактычна прайграе. Трэба выпрацаваць нейкую тактыку і не пісаць пра яе ў газетах. Выбары — справа вельмі складаная. Падкрэслю, што я не працаўнік Хартыі-97, бо сам яе падпісаў, але паўтару: пра Хартыю больш ведаюць за мяжою, чым у Беларусі.

**Кар: — Ці ёсць шанс правесці прэзідэнцкія выбары не так, як іх сабе ўяўляе прэзідэнт Лукашэнка?**

**С.Ш.:** — Мы працуем над тактыкай. У нашых планах — сустрэчы з прадстаўнікамі іншых парламентаў. У Беларусі так шмат апазіцыйных партыяў, што цяпер немагчыма гаварыць аб нейкіх агульных, скаардынаваных дзеяннях, хаця патрохі мы і рухаемся ў гэтым напрамку. Але не такім чынам, як гэта робіць Хартыя. Зразумейце, я не стаўлюся негатыўна да гэтай ініцыятывы, добра што яна існуе, але трэба шукаць лепшага вырашэння праблемы.

**Кар.: — Што вы думаеце пра Беларускі Народны Фронт?**

**С.Ш.:** — Я паважаю гэтую арганізацыю, але лічу, што для БНФ было б лепей, каб старшыня Фронту знаходзіўся цяпер у Беларусі. Бо ў Зянона Пазняка... Так кіруе ім чалавек, які ўжо не арыентуецца ў рэаліях нашай краіны. Трэба ўзмацніць кіраўніцтва Фронту ўнутры Беларусі. Мне вельмі шкада, што чалавек (Лявон Баршчэўскі), які цяпер кіруе БНФ, не мае адпаведных здольнасцяў.

*Гутарыла*
**Уршуля ПІВАВАР,**
*газета Trybuna*

## КАДРЫ



# Кто может – помогите

Здравствуйте, редакция газеты НАВІНЫ. Ситуация, в которой оказались мы с сыном, вынуждает меня обратиться к вам за помощью. Мне 26 лет, сыну 8 лет. В этом году во 2 класс пошел, а в школу собрать было — целая проблема: не за что! В Шарковщине на работу не устроиться, нет мест. За что жить? Как ребенка одеть, обуть, в школу отправить? А ведь надо еще и о себе подумать.

Живем мы на 300-350 тысяч (пособие по потере кормильца). Отца у сына нет, умер. А мы вот кое-как существуем. Куда я только ни обращалась — обещают помочь, а на самом деле плевать на нас хотели. В райисполкоме для того, чтобы себя оправдать, такой грязью обольют! А потом еще специально все во вред сделают. Мол, не будешь писать-жалиться да авторитет работников райисполкома подрывать. Поселок у нас маленький, вот и творится беспредел. Все только по блату, рука руку греет. А ты — сиди и не дергайся. Иначе вообще со свету начальнички местные сживут. Им лишь бы самим нажиться, наворовать. Да и я не собираюсь просить в райисполкоме ни какой помощи, бесполезно! Не было и не будет справедливости тут.

Я через вашу газету хочу обратиться к людям. Вас читают многие, и я уверена, что многие захотят, по возможности, нам с сыном помочь, кто чем сможет. У многих остается детская одежда — дети-то растут. Да и для меня, может, кто-нибудь сможет что-то прислать. Размеры: у сына размер обуви — 30—34, одежды — точно не знаю, но рост 140, на 8 лет. Он у меня рослый парень. Размер обуви у меня 37,5—39, одежда 46—48 размера. Я очень прошу помочь нам. Не помирать же нам с голоду, нет больше сил. Что говорить, когда я к концу месяца не могу хлеба домой купить, побираемся. Иногда и жить не хочется. Помогите нам! Думаю, вы поймете меня, очень тяжело вот так существовать, а сына на ноги надо поставить, и кроме меня никто о нем не подумает.

И еще, если это возможно, может вы каким-то образом дали бы знать о нас Красному Кресту.

*Наш адрес: 211910, Витебская обл., г.п.Шарковщина, ул.М.Горького, дом 4, кв.13.*

**ПРОВАЛИНСКАЯ Ольга Николаевна**

# Богаўгодная справа ці палітычная гульня?

Днямі прачытаў у вашай газеце матэрыял пра тое, што Лукашэнка арганізаваў «дабрачынную акцыю»: даслаў у расійскія манастыры 400 тон харчовых прадуктаў.

Хачу праз газету задаць пытанне Аляксандру Рыгоравічу: няўжо мы такія багатыя? Я разумею, калі заможная Еўропа накіроўвае ў бяднейшыя краіны гуманітарную дапамогу. Але перш за ўсё ўлады еўрапейскіх дзяржаў усё ж клапоцяцца пра сваё насельніцтва. У беларускіх крамах рэстаўравалі нормы водпуску прадуктаў у адны рукі — і разам з тым мы тонамі гонім іх у Расію.

Не ўзнікала б пытанняў, калі б харчовая дапамога дасылалася ў дзіцячыя дамы або інвалідам (няхай расійскім — хоць і ў гэтым выпадку варта было б спачатку забяспечыць такіх ва ўласнай краіне). Гэта сапраўды была б богаўгодная справа. А накіроўваць харч у манастыры... Узгадваю карціну аднаго з расійскіх мастакоў, дзе намаляваны манахі, што «здабываюць хлеб у поце твару свайго», як гэта і належыць па Біблії. Сярод манахаў хапае здаровых працаздольных мужыкоў, а ў Расіі хапае закінутых земляў, з якіх можна харчавацца. Увогуле, манахі — не самая бедная катэгорыя насельніцтва, якую неабходна падкормліваць.

Я думаю, што прычыную гэтай «шчодрасці» ёсць не жаданне дапамагчы людзям, а палітычныя гульні. Расійскія шавіністы, як вядома, аддаюць праваслаўнай царкве вялікую ролю ў аднаўленні імперыі. Відаць, Аляксандр Рыгоравіч пнецца стаць для іх найлепшым. І за адным разам паказаць расійскім выбаршчыкам, што вось у Расіі крызіс — а ў Беларусі пад маёй уладаю, маўляў, усё добра, праблем няма — мы нават можам сабе дазволіць падкінуць вам прадуктаў. На жаль, не першы выпадак, калі А.Лукашэнка больш думае пра пашырэнне сваёй улады на Расію, чым пра людзей.

**Мікалай ВАЛЬКОЎСКІ,** *г.Мінск*

# Из Житкович – в Минск

Уважаемая редакция! Пишет вам инвалид 2-ой группы, ветеран труда, одинокий человек. Два года я пишу на имя президента жалобы. Девять жалоб, три телеграммы. Тишина, как на кладбище.

1 октября 1998 года я была в Минске, ездила в Боровляны на консультацию к врачу. Освободилась рано и решила зайти в приемную президента, чтобы узнать о судьбе моих жалоб и телеграмм. Час ходила вокруг здания, пока не подсказали мне, где находится приемная. Зашла и спрашиваю у капитана КГБ (фамилию не знаю), принимает ли президент. Он говорит — нет. Я спрашиваю — это президент вам сказал? А он с таким апломбом отвечает — это я вам говорю.

Первый плевок в душу. Дальше — проверил документы и записал в список на прием к кому-то. Нас было человек 12. Меня он отправил в кабинет № 3. Там сидел какой-то работник пенсионного возраста. Говорит мне — пишите заявление по-новому и объясните, чего вы хотите. Я ему объясняю: хочу знать о судьбе моих 9 жалоб и 3 телеграмм. Ведь какой смысл. В десятый раз писать о том, что все жевано и пережевано?! Говорю ему — ради президента не обижали бы меня. Что вы! Такой апломб, такое высокомерие, такая незаменимость!

Когда он сказал мне, что тоже болен, я посоветовала ему идти на пенсию. Он вскипел и выгнал меня из кабинета.

Пусть ему не кажется, что если я плохо одета, стара и больна — я ничего не знаю и не понимаю. Думаю, что по образованию мы равны, разница в том, что он — закоренелый бюрократ, а я инвалид. Но время и болезни безжалостны, может, его ждет еще худшая доля, чем меня.

И вы, Александр Григорьевич, не всегда будете молодым и здоровым — всему свое время. Я вам советую, как ваш избиратель (два раза голосовала за вас и на выборах, и в поддержку на референдуме): на прием граждан ставьте молодых и толковых работников. Стражу смените тоже на умных людей. Все зависит в первую очередь от вас, регионы (вертикаль) копируют вас — вот почему у нас так много жалоб и заявлений. Рано еще нам петь для вас хвалебные гимны.

**Тамара Александровна ЖУРАВЛЕВИЧ,** *г.Житковичи Гомельской области*

# Оказывается, в Польше кругом нищие

**Недавно** один из депутатов президентской палаты по фамилии Костян трогательно говорил о *«бедственном положении Польши и нищете семидесяти процентов поляков»*. Очень сочувствует товарищ Костян соседям-полякам. Правда, наши люди, которые бывали в Польше, вряд ли согласятся с Костяном. Поляки не потеряли сознания ни от шоковой терапии, ни от последующих реформ. Наоборот, они стали лучше питаться, приоделись, купили машины и без затравленного блеска в глазах ходят по улицам и магазинам. Дистанция между Польшей вчерашней и сегодняшней огромная. Нарядные улицы и магазины создают уют. Но главное — спокойствие исходит от людей. Нет мечущихся глаз, нет страха, появилась доброжелательность. Это хорошо заметно на фоне нашего беспокойства и неуверенности.

Умами многих наших людей владеет только она мысль: как сэкономить денег на питание и самые необходимые услуги. Картошка опять стала главным продуктом на столе. Хочется купить рыбы, сыра, винограда, но все это большинству не по карману. Вновь появились очереди — за мясом в магазинах, за морковью с машин... Пожилая женщина как-то похвасталась, что простояла многочасовую очередь за 12-тысячной морковью, купила 40 килограмм и была счастлива.

Денег катастрофически не хватает не только пенсионерам, но и служивым людям. Рассказывают, что минские таксисты, страдающие от засилья частников, вызвали милицию, чтобы избавиться от конкурентов. Но ничего не вышло. Частниками оказались работники органов МВД, ночью подрабатывающие за рулем своих «Жигулей». Зарплата оплота нынешней власти похудела в три раза в долларовом выражении.

Мелким предпринимателям тоже несладко. «Динамо» из рынка все больше превращается в выставку и театр. Народ в основном только ходит и смотрит. Те, кто торгует, разыгрывают роли заговорщиков, дико озираясь по сторонам, пряча от налоговой службы. Мне пришлось на себе испытать вулкан отрицательных эмоций молодой продавщицы, когда я проходила мимо ее палатки и на миг остановилась. На ее вопрос, что меня интересует, я ответила, что только хожу и смотрю. Она вновь повторила свой вопрос и после такого же ответа с милой ненавистью положила табличку «Временно не работаю». До чего довели продавцов, если они так шарахаются от покупателей! В тот же день на «Динамо» один предприниматель перерезал себе вены — его поймали с валютой.

Может быть депутат Костян не ходит в магазин и на рынок, не слышит разговоров людей, не видит их глаз? Может быть он только подогревается слухами о западной угрозе и нищете поляков? В таком случае стоит снизойти с палатной трибуны в очередь к пенсионерам, поговорить с таксистами и мелкими предпринимателями, а также съездить в Польшу. После такого ознакомления дел на местах даже у самого отчаянного патриота откроются глаза и появится сочувствие к бедолагам белорусам.

**Людмила ГРЯЗНОВА,** *депутат Верховного Совета 13-го созыва*

# Почему наши проиграли

Пишет вам постоянный читатель из Гродно. Повод для написания этого письма — поражение сборной Беларуси по футболу от команды Уэльса. Вот какие мысли у меня возникли после просмотра этой игры.

Игра была равной. В отдельные моменты наши футболисты даже доминировали на поле, забили два красивых гола, но, тем не менее, в итоге проиграли. Почему? Чуть-чуть не хватило. Чего? Выскажу свое мнение.

После завершения игры телевизионная камера показала юного валлийского болельщика, который целовал свой национальный флаг. Он искренне радовался успеху своей команды, которая билась за честь своей Родины. И был горд тем, что родился и живет в маленьком Уэльсе. А вы видели, чтобы у Вас кто-нибудь когда-нибудь искренне целовал нынешний государственный флаг? Перед игрой, я уверен, футболисты Уэльса пели свой национальный гимн. А наши? А кто-нибудь когда-нибудь его искренне пел? При равной игре за счет национального духа, патриотизма, готовности отдать все для победы наши соперники и победили.

Нашим футболистам не помогли ни обещанные высокие гонорары за положительные результаты, ни просмотр заброшенных президентом шайб на хоккейной площадке, ни употребление церковного вина, поднесенного Лукашенком на встрече перед отъездом (об этом сообщила «Спортивная панорама»). А ведь были времена, когда Беларусь и Голландию побеждала. Правда, под другим флагом.

И все-таки один эпизод из телетрансляции придает оптимизма — на трибуне мы увидели наших болельщиков с бел-чырвона-белыми флагами.

**Л.ШИК,** *г.Гродно*

# Письмо из Москвы

Здравствуйте, уважаемая редакция! Случайно мне попала в руки газета НАВІНЫ (№ 102, от 25 сентября 1998 г.), с большим удовольствием ее прочитал. Особенно понравилась статья Александра Старикевича «Воля и вера», где упоминалась судьба белорусского патриота Бориса Рагули. Как я понял, Александр Старикевич более подробно писал о Рагуле в своей предыдущей статье. Очень хочу получить подробную информацию об этом замечательном человеке. По известным причинам я не имею возможности регулярно получать вашу газету в Москве, поэтому очень прошу редакцию выслать мне номер НАВІНАЎ, где опубликован расширенный материал о Борисе Рагуле.

Немного о себе. Мне 25 лет, этнический белорус, верю в независимость и демократию на Беларуси.

С уважением

**Роман МАЦУЛЕВИЧ,** *г.Москва*

КАДРЫ



 



## Кангрэс будзе ў студзені

**Каля 700 дэлегатаў будуць удзельнічаць у Кангрэсе дэмакратычных сілаў Беларусі, які намечана правесці ў канцы студзеня наступнага года.**

Гэтая лічба была названая 21 кастрычніка на паседжанні аргкамітэта па правядзенні кангрэса, якое прайшло пад старшынствам Генадзя Карпенкі.

Члены аргкамітэта згадзіліся з прапановай намесніка старшыні БНФ Юрыя Хадыкі пры вызначэнні складу ўдзельнікаў кангрэса выкарыстоўваць змешаную сістэму вылучэння. На сёння да ўдзелу ў кангрэсе рыхтуюцца прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, дзвюх сацыял-дэмакратычных партыяў, Беларускай партыі працы, а таксама шэрагу грамадскіх арганізацыяў. Сярод дэлегатаў будуць таксама асобы, абраныя на сумесных абласных канферэнцыях гэтых партыяў і грамадскіх арганізацыяў.

*БелаПАН*

# Якая зарплата ў прэзідэнта?

## *Карэспандэнт нашай газеты паспрабаваў знайсці адказ на гэтае пытанне як звычайны падаткаплацельшчык*

**ПЫТАННЕ**, вынесенае ў загаловак, я задаваў па тэлефоне самым розным чыноўнікам — з адміністрацыі прэзідэнта, міністэрства фінансаў і г.д.

Прама мне ніхто не адмаўляў. Спачатку ў тэлефоне чуўся смех. Потым суразмоўца станавіўся сур'ёзным і цікавіўся: хто я такі, якія мае паўнамоцтвы, ці атрымаў я санкцыю, — адным словам, высвятлялася ступень маёй «дасведчанасці». Я адказваў вельмі проста: «падаткаплацельшчык». Далей чыноўнікі дзейнічалі па трох варыянтах: ці клалі трубку, ці "запускалі на арбіту" (раілі патэлефанаваць па другім нумары, бо «не валодаюць інфармацыяй»). Толькі адзін аказаўся з гумарам: *«А вы яго самі спытайце»*. Тут засмяяўся ўжо я.

Тэлефонныя размовы я спыніў. Уласна, а чаму я павінен самастойна высвятляць такое казытлівае пытанне? Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан атрымлівае 200 тысяч долараў у год. Гэта ведаюць усе амерыканцы. Губернатар штата Нью-Йорк Джордж Патакі — 130 тысяч, а, скажам, начальнік упраўлення адукацыі Нью-Йорка Рудольф Кру — 195 тысяч долараў. Мы жывем за тысячы кіламетраў ад Злучаных Штатаў, але пра даходы іхняга начальства нам даведацца прасцей, чым пра зарплату нашага дарагога Аляксандра Рыгоравіча.

За мяжой не прынята задаваць пытанні пра асабістыя даходы — гэта ў нас нават дзеці засвоілі. Ёсць толькі адно выключэнне: для тых, каго выбралі кіраваць. Рэгулярна абнародваюцца звесткі пра іхнія даходы, выплачаныя падаткі і г.д. Мяне, напрыклад, здзівіла, што начальнік упраўлення адукацыі Нью-Йорка атрымлівае больш за губернатара штата? Чаму? Аказваецца, таму што яго жадаюць утрымаць на гэтым месцы. У Рудольфа Кру самая высокая зарплата ў краіне сярод чыноўнікаў ягонага рангу. Больш таго, спадару Кру прапанавалі новы кантракт, і ён будзе атрымліваць больш прэзідэнта — 240 тысяч долараў у год. І ўсе гэта ведаюць. І не маюць нічога супраць, бо падаткаплацельшчыкам растлумачана, чаму так, а не гэтак. У прыватнасці, тое, што чыноўнікі на гэтым месцы мяняліся часта, а Рудольф Кру — адміністратар здольны і энергічны, калі не павысіць яму зарплату, то ён пойдзе ў прыватную адукацыю.

Больш за ўсё мяне ўразіла ў гэтай гісторыі тое, што спадар Кру нават растлумачыў, навошта яму дадатковыя грошы! А таму, што трэба вучыць дзяцей: калі бацькі забяспечаны, то плаціць за навучанне дзіцяці ва універсітэце трэба 30 тысяч долараў у год (у сярэднім).

Нават калі б мне сказалі, што Аляксандр Лукашэнка атрымлівае, напрыклад, 10, 15, 20 мільёнаў рублёў, я б усё роўна не паверыў. Вось я не магу купіць сабе верталёт за некалькі мільёнаў долараў, а ён можа. І ў мяне ўзнікаюць наіўныя пытанні: адкуль такія грошы, чаму менавіта верталёт, ці нельга было гэтую суму выдаткаваць на штосьці больш карыснае і г.д. Можа б я і пагадзіўся на верталёт для нашага прэзідэнта, ды мяне ніхто не пытаў. І не спытае.

Да таго ж, я нарадзіўся менавіта ў гэтай краіне і добра ведаю, што яна жыве па двайному стандарту. Краіна мае два бюджэты: адзін — для Аляксандра Рыгоравіча, другі — для астатніх. Сваім бюджэтам прэзідэнт распараджаецца самастойна. Напрыклад, рухае наперад беларускі хакей, бо сам любіць паганяць шайбу. Можа пабудаваць жылы дом для спартсменаў, заснаваць прэмію для літаратараў і журналістаў, здольных лёгка даказаць, што Беларусі вельмі пашанцавала на правадыра.

Але пра ўсё гэта шэраговы падаткаплацельшчык даведваецца пераважна з незалежнага друку і ўжо пастфактум. Сваё незадавальненне ён можа выказаць хіба што жонцы. Каму-небудзь іншаму — рызыкоўна. Пытанне «колькі зарабляе прэзідэнт» плаўна перацякае ў пытанне «на якую разведку вы працуеце» — яго вам могуць задаць прадстаўнікі «кампетэнтных органаў».

Двайная бухгалтэрыя і ўнізе. У адным райвыканкаме мне пад вялікім сакрэтам паказалі дзве ведамасці на выплату зарплаты работнікам гэтай установы. У адной паперы былі даволі прыстойныя лічбы, але пасля знаёмства з другой — вочы імкліва палезлі на лоб. Мне патлумачылі: у другой ведамасці — разнастайныя прэміі начальству за выкананне і перавыкананне. Так было і ў савецкія часы, толькі сёння гэта робіцца больш хітра.

Так што пытанне пра прэзідэнцкую зарплату ёсць пытанне рытарычнае і палітычнае. Канчатковае яго высвятленне можа прывесці ў сферу дзеяння Крымінальнага кодэксу. Не раю.

**Андрэй СЯРЖАН**

# Цены волнуют больше всего

## *Половина населения Беларуси считает, что их доходы зависят не от результатов собственного труда, а от решений тех, кто наверху*




Как свидетельствуют результаты опроса, проведенного Независимым институтом социально-экономических и политических исследований (НИСЭПИ), на сегодняшний день перед гражданами Беларуси наиболее остро стоят проблемы, связанные с ухудшением их материального положения, снижением уровня и качества жизни.

Отвечая на вопрос *«Какие из перечисленных проблем наиболее остро стоят сейчас перед Республикой Беларусь и ее гражданами?»*, респонденты были весьма единодушны. Вот как распределились ответы *(% от числа опрошенных)*:

| | |
|---|---|
| 1. Рост цен | 74,7 |
| 2. Обнищание населения | 49,7 |
| 3. Безработица | 28,5 |
| 4. Преступность | 26,7 |
| 5. Спад производства | 23,5 |
| 6. Коррупция | 21,8 |
| 7. Последствия Чернобыльской катастрофы | 20,2 |
| 8. Отсутствие порядка, законности | 20,0 |
| 9. Нарушение прав человека | 9,9 |
| 10. Развитие связей с другими странами | 8,8 |
| 11. Угроза Запада | 2,7 |

Как видим, перед ростом цен и массовым обнищанием населения бледнеют даже такие острейшие проблемы, как преступность и коррупция, не говоря уже об угрозе Запада (которую белорусы практически и проблемой-то не считают).

Но в любой ситуации хочется верить, что безвыходных положений нет, и проблемы так или иначе будут решены. Вот только кто их решит? В принципе, тут есть варианты: во-первых, мы сами, а во-вторых, кто-то другой (государство, правительство, президент). Судя по ответам на вопросы социологической анкеты, большинство сограждан ждут решений от государства. Например, на вопрос о том, следует ли государству регулировать цены, 74,3 % респондентов ответили утвердительно. Это столько же, сколько считают, что рост цен — самая большая наша проблема.

Можно ответить на рост цен и иначе — ростом заработка, личных доходов. Правда, многие сомневаются в своих возможностях больше зарабатывать, что отражено в следующей таблице.

| От чего или от кого зависят Ваши заработки? | Население в целом (% от числа опрошенных) | Работники, занятые в госсекторе | Работники, занятые в негосударств. секторе |
|---|---|---|---|
| 1. От решений правительства, президента, парламента | 50,1 | 45,8 | 22,3 |
| 2. От работы предприятия | 23,0 | 37,2 | 24,8 |
| 3. От результатов личной работы | 15,2 | 13,2 | 32,2 |
| 4. От возможности подработать | 14,8 | 15,7 | 19,0 |
| 5. От непосредственного начальника | 11,6 | 17,0 | 14,0 |
| 6. От других обстоятельств | 6,8 | 6,5 | 5,0 |

По мнению половины респондентов, их доходы зависят не от результатов работы предприятия и не от результатов их собственного труда, а от государственной политики, от судьбоносных решений на самом верху. В сопоставлении приведенных ответов вырисовывается известная логика: если государство ограничивает заработок, то оно должно ограничивать и рост цен, держать их в рамках приемлемого. Правда, работники, занятые в государственном и в негосударственном секторе экономики в отношении оценки роли государства разительно отличаются друг от друга. Первые ни во что не ставят собственную активность, полагая, что их благосостояние полностью предопределено государством, тогда как индивидуалы и частники уповают прежде всего на себя и эффективность работы своего предприятия, хотя и государственные указы и декреты ставят отнюдь не на последнее место.

Для личного бюджета как тех, так и других определенное значение имеет возможность подработать, так называемая вторичная занятость.

Из 42,2 % населения, которые имеют постоянный или временный дополнительный заработок, 7% получают его, работая по своей основной специальности, 7,4% — по другой специальности, а большинство — 27,8 % респондентов — ответили, что их дополнительная работа такова, что вообще не требует специальной подготовки. Что же это за работа, приносящая дополнительный доход почти половине граждан?

Как следует из данных, приведенных в таблице ниже, основной формой вторичной занятости для населения, работающего в государственном секторе, является труд на приусадебном участке, относительное распространение получили также платные частные услуги — строительство, ремонт, пошив. Структура вторичной занятости работников негосударственной сферы экономики несколько иная: в ней доминируют торговля на рынке и в киосках, профессиональная деятельность по контракту, больший удельный вес

| Какая работа приносит Вам дополнительный доход? | Население в целом (% от числа опрошенных) | Работники, занятые в госсекторе | Работники, занятые в негосударст. секторе |
|---|---|---|---|
| 1. Работа на приусадебном участке | 29,0 | 31,3 | 13,2 |
| 2. Услуги населению (строительство, ремонт, пошив) | 9,7 | 11,0 | 12,4 |
| 3. Торговля на рынке, в киосках | 5,2 | 3,7 | 21,5 |
| 4.Профессиональная деятельность по контракту, заказу | 4,2 | 4,3 | 15,7 |
| 5.Совместительство на том же предприятии, где основная работа | 4,0 | 6,7 | 6,6 |
| 6. Посредническая деятельность, брокерство | 3,3 | 2,3 | 6,6 |
| 7.Совместительство на другом предприятии | 2,8 | 4,3 | 2,5 |
| 8. Производство потребительских товаров на продажу | 2,4 | 2,9 | 5,0 |
| 9. Репетиторство, частные уроки | 1,6 | 1,9 | 1,7 |

(по сравнению с вторичной занятостью работников государственного сектора) имеют посредническая деятельность и производство потребительских товаров на продажу. Если же говорить в среднем, то безусловное предпочтение отдается самому традиционному и испытанному средству поддержать себя и свою семью — собственному клочку земли. Собираемый с него урожай, конкурирующий с урожаем колхозов, и является одним из тех факторов, которые способны хоть немного сдерживать рост цен.

*Опрос проводился в рамках проекта «Развитие информационной инфраструктуры рыночной экономики Беларуси», осуществляемого при поддержке Центра международного частного предпринимательства (CIPE, Вашингтон). Выборочная совокупность опрошенных составила 1.486 человек (предельная ошибка репрезентативности — 0,03).*

 

